Уладзімір ЛІПСКІ

# НІКОЛІ НЕ ЗМОЎКНУЦЬ САЛАЎІ...



З нашага балота выцякае ручаёк, які пазначаны на карце Беларусі як рэчачка Стоўпінка. Яна ўпадае ў Сведзь, а тая — у Бярэзіну. Далей — Днепр і Чорнае мора. Дык вунь з якім светам звязаны мае Шоўкавічы!

Божа мой, а якія людзі жылі ў нашай вёсцы. Пра кожнага можна пісаць аповесці. Іх чысціня, мудрасць, святасць, адданасць зямлі і дзецям — узор высокай народнай педагогікі.

А дуб-волат на нашым агародзе! Дык з яго, аказваецца, пачынаецца Шоўкаўская дубрава, якая з'яўляецца помнікам прыроды. Я ж думаў, што дубрава адметная толькі крамянымі баравікамі, зялёнымі сыраежкамі, высокім папаратнікам ды арэхамі-лузанчыкамі.

У лепшыя часы ў вёсцы жыло больш за дзвесце чалавек. Цяпер толькі тры. Шоўкаўцы перасяліліся на пагост, а хаты пераехалі ў іншыя мясціны і сталі дачамі, лазнямі, гаражамі. Сумна. Горка. Балюча. І крыўдна, што ў хуткім часе на месцы хат зашумяць дубкі ды бярозы, сенажаць зарасце лазняком. Нават буслы перастануць масціць тут свае маёнткі. А каму дадуць канцэрты салаўі? Хто пацешыцца крумканнем жаб? Хто вылавіць у сажалцы вёрткіх уюноў?

Паўстае галоўнае пытанне: як пасяліць у знікаючай вёсцы Памяць?

Аднойчы я папрасіў вучняў вёскі Камсамольск, каб яны высадзілі ад дуба да вуліцы ліпавую алею. Я назваў яе Алеяй Памяці. На старых граблях вывесіў шыльду з прозвішчамі ўсіх Шоўкаўцаў, якія тут жылі: Ліпскія, Старжынскія, Палінскія, Мілюты, Бабічы, Кулачэнкі, Маркавы, Козыры…

Энтузіясты лясгаса паставілі новы плот з брамкай і лавай. А каля дуба — альтанку.

Вось такі просценькі мемарыял Памяці ўзнік у маіх Шоўкавічах. Яшчэ хачу ў пустуючай братавай хаце вывесіць у самаробных рамках фотаздымкі ўсіх шоўкаўцаў. Прыедзе нехта наведаць магілку бацькоў, радні і зойдзе ў хатку, якая захоўвае памяць і вобразы былых вяскоўцаў. А калі побач адновіцца калодзеж, то і зачарпне крынічнай вады. І ўсплывуць жывыя ўспаміны пра мілы сэрцу кут, над якім самыя высокія зоры.

Вёска была і ёсць захавальніцай духоўных народных скарбаў. Яна вылюляла шмат талентаў Беларусі ва ўсіх сферах чалавечай творчасці. Дык ці маем мы права пакінуць забытай гэту жыццёвую крынічку?

Чытаю ў «Маладосці» аповеды юных Валерыі Саротнік, Паліны Лук'яновіч пра вёску і мудрых бабуль. І ў сэрца маё ўліваецца спадзеўная энергая веры. Усцешваюся: жыла, жыве і будзе жыць яе вялікасць Вёска. Не забывайма адвечную пупавіну ўсея старажытнай матухны Беларусі!

***Працяг «Тэмы» знойдзеце на новым сайце «Маладосці». Чытайце ў рубрыцы «Поўная версія» артыкул Надзеі Тачыцкай «Перад апошнім паваротам»***